**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 24 (949) 14 чэрвеня 2018 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




**Выпускнікі – 2018, медалісты Псуеўскай СШ: злева направа – Кацярына Шульга (залатая) і Анжаліка Герасімёнак (срэбная) на развітальным балі выпускнікоў Глыбоцкага раёна на Цэнтральнай плошчы ў Глыбокім.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Ужо зараз можна**
*ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці*
**выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 2-е паўгоддзе 2018 г.**

ISSN 2077-8023



## Мёрскі раён

# Падарунак медыкам і пацыентам

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўзводзімых у нашай краіне аб'ектах, як і ў людзей, бывае далейшы розны лёс.**

Да нядаўняга часу адным з самых працяглых доўгабудаў, яшчэ з часоў распаду СССР было будаўніцтва ў Мёрах новай цэнтральнай раённай бальніцы. Толькі калі на шматпакутную клініку звярнула пільную ўвагу кіраўніцтва Беларусі, справы там пайшлі хутка і за год нарэшце гэту справу, пачатую чвэрць стагоддзя назад, завяршылі. Абжывацца ў новым медыцынскім гарадку на ўскраіне горада медыкі пачалі з 8 мая, а афіцыйнае адкрыццё важнейшага для жыхароў рэгіёна аб'екта сацыяльнай сферы адбылося незадоўга перад іх прафесійным святам. Акрамя будаўнікоў трэста "Полакцсельбуд" і яшчэ больш 20 субпадрадных арганізацый усе пастараліся, каб тут былі створаны максімальна зручныя ўмовы для лячэння людзей. Медустанове пашчасціла, што яе ўключылі ў адпаведную рэспубліканскую інвестыцыйную праграму, на завяршальны этап работ пайшло 8 млн. рублёў. Пэўным чынам кампенсавала ранейшыя нязручнасці і Міністэрства аховы здароўя Беларусі, якое закупіла сюды сучаснага медабсталявання яшчэ на 1,8 млн. рублёў. Усе тры паверхі лячэбнага корпуса на 120 ложкаў выглядаюць прыгожа, а найбольш уражваюць аперацыйны блок з рэанімацыйным аддзяленнем. У мясцовай бальніцы запрацаваў найноўшы лічбавы рэнтгенапарат, адкрылі адно з найлепшых у краіне радзільных аддзяленняў. Мясцовыя ўлады на цырымоніі ўрачыстага адкрыцця клінікі падаравалі медыкам сертыфікат на набыццё новай машыны хуткай дапамогі. Самае ж важнае, што ўслед за ЦРБ тут задумалі ўзвесці яшчэ адну спецыялізаваную паліклініку, якая будзе адпавядаць еўрапейскім стандартам.

## Пастаўскі раён

# Для партнёраў граніц няма

■ Кастусь Александровіч

**Пасля аб'яднання ГДР з ФРГ у адну дзяржаву для нямецкага Чырвонага Крыжа пастаянным партнёрам стала Віцебшчына.**

Падчас чарговага прыезда сюды шасцёра актывістаў гэтай дабрачыннай міжнароднай арганізацыі з зямлі Ніжняя Саксонія ўпершыню наведалі Пастаўскі раён. Гасцей знайшоў час прыняць і пазнаёміцца, акрэсліць сумесную сферу дзейнасці глава раёна Сяргей Чэпік. Для нямецкіх гасцей арганізавалі насычаную праграму, пазнаёмілі з нядаўна адкрытым музеем аптэкарскай справы і працай медустаноў раёна. Цікавасць у іх выклікала знаёмства з экспазіцыямі філіяла раённага краязнаўчага музея ў Палацы Тызенгаўза, дзе багата расказваецца аб баях на пастаўскай зямлі падчас Першай сусветнай вайны. Затым прадстаўнікі Чырвонага Крыжа вывучылі ўмовы дзейнасці і практыку аказання паслуг сацыяльна-педагагічнага цэнтра, дзіцячага прытулка, акадэміі трэцяга ўзросту для пажылых грамадзян у райцэнтры. Мясцовы ТЦСАН праводзіць значную работу ў садружнасці з германскім фондам "Памяць, адказнасць і будучыня". Пры падтрымцы беларускай арганізацыі Чырвонага Крыжа і нямецкіх партнёраў грант у суме 5700 еўра быў патрачаны на аказанне аздараўленчых паслуг і іншай дапамогі былым вязням канцэнтрацыйных лагераў і гета. Пры салоне "Міласэрнасць" неўзабаве будзе адкрыты пункт бясплатнага пракату сродкаў медыцынскай рэабілітацыі з валанцёрскім цэнтрам. На такія добрыя мэты паляпшэння якасці жыцця людзей з праблемамі здароўя пацрацілі яшчэ каля 12 тысяч еўра. Нямецкія партнёры на развітанне паведамілі, што прыедуць на Пастаўшчыну сёлета яшчэ раз і не з пустымі рукамі. У райцэнтр яны даставяць інвалідныя крэслы, сучасныя медыцынскія ложкі, патрэбныя мясцовым жыхарам іншыя сродкі медыцынскай рэабілітацыі.

## Віцебск

# Яшчэ адзін спорткомплекс

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам, каб яшчэ болей прыцягнуць людзей да здаровага ладу жыцця, у розных кутках Прыдзвіння пачалі ўзводзіць сучасныя спорткомплексы і іншыя аб'екты.**

Толькі ў мінулым годзе здалі ў эксплуатацыю ФАКі з плавальнымі басейнамі ў Гарадку і Ушачах, шматпрофільныя сучасныя спортпляцоўкі ў Сянно і Дуброўне, да будаўніцтва новых цэнтраў здароўя з басейнамі приступілі ў Верхнядзвінску і Лёзне. Актыўна абнаўляецца матэрыяльна-тэхнічная база і ў абласным цэнтры, дзе ўзводзяць вядучы ў краіне цэнтр батута. Напярэдадні прафесійнага свята – дня работнікаў лёгкай прамысловасці на праспекце Люднікава ў Віцебску адкрылі трохпавярховы сучасны спорткомплекс. Пра гэта паклапаціўся вядучы айчынны абутковы холдынг "Марко" і правёў рэканструкцыю былога склада сваёй фабрыкі "Красный Октябрь". На ёй працягваюць нарошчваць выпуск абутку пасля аснашчэння з дапамогай галаўной упраўляючай кампаніі сучасным абсталяваннем. Холдынг "Марко" мае таксама сваю прафесійную валейбольную каманду, якая ў апошнім чэмпіянаце Беларусі па валейболе ў вышэйшай лізе сярод мужчын фінішавала на 5-м месцы. Цяпер там разлічваюць, што на сваёй новай базе валейбол на Віцебшчыне атрымаў стымул для далейшага росту і выхаду на міжнародную арэну. Акрамя асноўнай залы для гульнявых відаў спорту для прафесійных атлетаў ў спорткомплексе абсталявалі трэнажорныя і залы для заняткаў фітнесам для сваіх работнікаў і ўсіх жадаючых быць у добрай фізічнай форме.

# АСОБНАЯ АД МАСКВЫ ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА І НЯПРОСТАЯ АБСТАНОЎКА Ў СВЕЦЕ ПРЫМУШАЮЦЬ БЕЛАРУСЬ БОЛЕЙ КЛАПАЦІЦЦА АБ СВАЁЙ АРМІІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Скажам шчыра, мець моцную армію – няпростая задача, бо адзін сучасны самалёт каштуе дзясяткі млн. долараў, а навейшая зенітная ракетная сістэма С-400 ужо каля паўмільярда. Між тым беларусы пры сціплых фінансавых магчымасцях дабіліся пэўных поспехаў у мадэрнізацыі войск, стварылі сілы аператыўнага рэагавання.**

Перад наступленнем лета і сезона масавых адпачынкаў беларусы даведаліся, што ў маі ў нашай краіне зноў назіралася дэфляцыя, альбо па-простаму зніжэнне цэн. Праўда, не здзівіла многіх з нас, што неўзабаве ў Беларусі могуць сур'ёзна павялічыцца цэны на паліва і што быў затрыманы за атрыманне хабару ў суме 200 тысяч долараў нават памочнік прэзідэнта па Гродзенскай вобласці С. Раўнейка. А вось наша ранейшая міратворчая дзейнасць, паспяхова праведзены "Мінскі дыялог" прынеслі кіраўніцтву краіны значныя дывідэнты: федэральны канцлер Аўстрыі запрасіў А. Лукашэнку наведаць Вену і адну з вядучых дзяржаў ЕС.

Зразумела, што да поўнага прызнання нас Захадам раўнацэнным партнёрам яшчэ далёка. Аднак і відавочна стала многім еўрапейцам, што Беларусь, якая знаходзіцца ў некалькіх саюзах з суседняй Расіяй, пры гэтым займае і стараецца прытрымлівацца асобнай пазіцыі на міжнароднай арэне, узяць хаця б на пытанні расійска-ўкраінскага канфлікту. На фоне пакуль так і не падпісанага пагаднення аб узаемным прызнанні віз адбыўся візіт у Мінск главы расійскага МЗС С. Лаўрова. Добра, што мы дамовіліся з рускімі аб бязвізавым праездзе замежных грамадзян падчас чэмпіянату свету па футболе ў РФ і ІІ Еўрапейскіх гульняў-2019. Услед за гэтым беларускі дідар правёў важную нараду, на якой абмяркоўваліся вынікі прайшоўшай праверкі Узброеных Сіл.

На фоне няпростай геапалітычнай абстаноўкі вакол нас і агрэсіўных паводзін Крамля многія дзяржавы кантынента сталі ўдзяляць больш ўвагі пытанням абароны. Беларусь таксама не выключэнне, хоць Вярхоўны галоўнакамандуючы, адкрываючы пасяджэнне заявіў, што наша краіна "не собирается втягиваться в гонку вооружений, а тем более попусту бряцать оружием". Аднак беларускі лідар падкрэсліў, што "и впредь на нашу безопасность тратить будем столько, сколько нужно. Кормить надо своих солдат". Іншая справа, што магчымасці айчыннай эканомікі даволі сціплыя і таму да мілітарысцкіх дзяржаў нас аднесці цяжка.

Сёлета на патрэбы нацыянальнай абароны з дзяржбюджэту выдзелілі крыху больш паўмільярда долараў, альбо каля 1 % ВУП. Нават нашы суседзі літоўцы трацяць на гэтыя мэты болей – 812 млн. USD, а палякі і таго болей – 10 млрд. долараў. У суседняй Расіі з-за эканамічных цяжкасцей на абарону ў гэтым годзе накіравалі 46 млрд. USD, амерыканцы нават амаль у 20 разоў больш, чым руския. Скажам шчыра, мець моцную армію – няпростая задача, бо адзін сучасны самалёт каштуе дзясяткі млн. долараў, а навейшая зенітная ракетная сістэма С-400 ужо каля паўмільярда. Між тым беларусы пры сціплых фінансавых магчымасцях дабіліся пэўных поспехаў у мадэрнізацыі войск, стварылі сілы аператыўнага рэагавання.

Нам у садружнасці з кітайцамі ўдалося стварыць навейшыя сістэмы ракетнага залпавага агню "Паланез" з дальнасцю палёту да 300 км. Спецыялісты айчыннага ВПК распрацавалі таксама комплекс радыёэлектроннай барацьбы "Гроза-С" для перахопу беспілотнікаў ворага. Беларусы выпусцілі надзейныя радыёлакацыйныя станцыі "Восток-3D", яны карыстаюцца попытам у свеце, як і нашы беспілотныя авіякомплексы для вядзення разведкі і ўдараў па аб'ектах праціўніка. Зразумела, і беларусам трэба трымаць порах сухім, быць гатовым да абароны сваёй зямлі. На шчасце, на нас ніхто нападаць, дзякуй Богу, не збіраецца. Калі дойдзе да глабальнага супрацьстаяння, то звычайнай вайны не будзе, а пачнецца абмен тэрмаядзернымі ракетамі звышдзяржаў і чалавецтва тады можа напаткаць пагібель.

На прайшоўшай нарадзе шмат увагі ўдзялілі і маральна-псіхалагічнай атмасферы ў беларускім войску, дзе не ўсё добра і адбыўся рост нестатутных узаемаадносін з-за "дзедаўшчыны". Да выяўлення такіх фактаў сталі падыходзіць больш строга і прынцыпова, што, безумоўна, правільна.У цэлым, як адзначалася на тым пасяджэнні, наша армія падчас раптоўнай праверкі нядрэнна справілася з пастпіўшымі заданнямі, эфектыўна спрацавалі структуры беларускай сістэмы СПА і баявой разведкі, разгортвання сіл з рэзерву. Прэзідэнт таксама правёў кадравыя назначэнні ў кіраўніцтве беларускай арміі.

Услед за гэтым важную заяву зрабіў у Брусэлі беларускі міністр замежных спраў У. Макей. Ён прама сказаў, што пакуль беларусы не плануюць дазваляць рускім размяшчаць на нашай зямлі іх новыя ваенныя базы, але могуць перагледзець сваю пазіцыю, калі ў суседняй Польшчы з'явіцца на пастаяннай аснове дадатковы амерыканскі ваенны кантынгент. Лепш бы было, каб да гэтага справы не дайшлі. А вось А. Лукашэнка падчас наведвання пагранзаставы ў Кобрынскім раёне прапанаваў рускім вызначыцца з фарматам прысутнасці іх пагранічнікаў на беларускай граніцы. Беларускі кіраўнік сказаў, што калі ўсходнія суседзі хочуць закрыць нашу граніцу, то і мы ўвядзём адэкватны кантроль на рускай мяжы.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 14.06.18 | | | | Пятніца 15.06.18 | | | | Субота 16.06.18 | | | | Нядзеля 17.06.18 | | | | Пн.18. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +15 | +21 | +18 | +12 | +17 | +23 | +19 | +14 | +18 | +24 | +21 | +17 | +20 | +26 | +21 | +1[illegible] |
| Ціск | 744 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 750 | 751 | 751 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 751 | 751 | 751 |
| Вецер м/сек | 3 У | 2 У | 3 У | 3 У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 3 У | 3 У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 У | 3 Пн-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У |
| Вільготнасць | 69 | 64 | 40 | 55 | 77 | 64 | 38 | 57 | 74 | 65 | 35 | 54 | 57 | 52 | 25 | 41 | 67 |

## Дзень за днём

**У Мінску прайшоў Беларускі прамысловы форум-2018. А. Лукашэнку запрасілі наведаць з візітам Аўстрыю. У Беларусі за 4 месяцы з-за недагляду дарослых загінула звыш 30 дзяцей. Змены на ЦТ будуць падчас уступнай кампаніі 2019 года. У Шабанах ля сталіцы з'явіцца акумулятарны завод. КДБ затрымаў памочніка прэзідэнта па Гродзенскай вобласці. На возеры Нарач правялі экалагічную акцыю па ачыстцы вадаёма. Завяршылася рэканструкцыя мінскага стадыёна "Дынама". Беларусь дамовілася з Расіяй пра бязвіз падчас чэмпіянату свету па футболе. Са школамі краіны развіталіся 59 тысяч выпускнікоў 11 класаў. Першыя дні лета парадавалі беларусаў цяплом і сонцам.**

## Важнейшыя навіны свету

**Галандыя.** Глава МЗС С. Блок заявіў, што краіна з Аўстраліяй на падставе міжнароднага расследавання абвінавачвае Расію ў знішчэнні "Букам" малайзійскага Боінга МН 17.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін запэўніў, што РФ не будзе закрываць транзіт газу праз Украіну, калі ён будзе эканамічна мэтазгодным, рускія гатовы да перамоў з украінскім бокам.

**Азербайджан.** Пры падтрымцы ЗША, Англіі і ЕС краіна запусціла Паўднёвы газавы карыдор, яе газ пайшоў у Грузію, Турцыю, Балгарыю, Грэцыю, Албанію і Італію.

**Калумбія**. Пасля заканчэння 50-гадовай грамадзянскай вайны прэзідэнт Хуан Мануэль Сантос першай у Лацінскай Амерыцы далучыў сваю краіну да НАТО.

**Польшча.** Глава МЗС Я. Чапутовіч заклікаў уладу Захада прадоўжыць санкцыі супраць Расіі, бо яна не змяніла свае паводзіны на міжнароднай арэне і агрэсію ў Данбасе.

**Італія.** Палітычная сітуацыя ў краіне стала зноў напружанай пасля роспуску пасля 5 дзён працы безадказнага папулісцкага ўрада Джузепэ Контэ, якое пайшло супраць ЕС.

**Іарданія**. Улады краіны вырашылі адмовіцца ад сумеснага з Расіяй праекта па ўзвядзенні АЭС магутнасцю 2 тыс. мВт, бо ягоны кошт 10 млрд. долараў – занадта дарагі.

**Сірыя.** Яшчэ чацвёра расійскіх ваенных, якія кіравалі агнём сірыйскай батарэі, загінулі падчас начнога бою ў правінцыі Дэйр-эз-Зор, ахвяр у арміі РФ там ужо сотні чалавек.

**Польшча.** Міністэрства абароны прапанавала размясціць на тэрыторыі краіны на пастаяннай аснове бранятанкавую дывізію ЗША, гатова ўкласці ў яе базу да 2 мільярдаў долараў.

**Літва.** Палітолаг Л. Іанавічус заявіў, што на Мінскім форуме дыялог паміж Расіяй і Захадам пакуль не атрымаўся, але такія спробы карысныя, асабліва для бяспекі беларусаў.

**Туркменістан.** Мытная служба ЗША забараніла ўвоз з краіны бавоўны і вырабаў з яе, бо туркмены збіраюць яго масава ў прымусовым парадку па загадзе мясцовых улад.

**Галандыя.** Авіякампанія Aruba Airlines запусцілі самы кароткі ў свеце міжнародны рэйс 80 км з заморскага вострава краіны Аруба да Венесуэлы, палёт доўжыцца 8 хвілін.

**Карэя.** Самым бяспечным і надзейным легкавым аўтамабілем у свеце для ўладальнікаў эксперты назвалі мадэль карэйскага аўтаканцэрна Hyndai Accent (Solaris).

**Літва.** Па выніках першага квартала сярэдняя заробкі ў краіне выраслі да 700 еўра ў месяц на рукі, зарплата беларусаў у красавіку знізілася да 921 рубля, гэта 326 еўра на рукі.

**Расія.** Да 3 год турмы пагражае 37-гадоваму вандалу з Варонежа, які ў Траццякоўскай галерэі на падпітку нанёс значныя пашкоджанні карціне "Іван Грозны забівае сына".

## Беларусам могуць урэзаць бальнічныя



■ FINANCE.TUT.BY

**У Беларусі для зніжэння выдаткаў ФСАН могуць змяніць падыходы да аплаты бальнічных.**

У прыватнасці – не аплачваць бальнічныя работнікам у сувязі з агульным захворваннем або траўмай у побыце першыя тры каляндарныя дні, а аплачваць іх толькі з чацвёртага дня часовай непрацаздольнасці. Такія варыянты былі агучаны, па звестках БелаПАН, на гэтым тыдні ў Савеце Рэспублікі, дзе разглядалася пытанне дэфіцыту Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва. FINANCE.TUT.BY нагадвае, як цяпер у Беларусі выплачваюць бальнічныя.

У Мінпрацы ў пачатку гэтага года заяўлялі, што ў краіне растуць выдаткі на дапамогі па часовай непрацаздольнасці. Гэтую праблему маюць намер вырашаць сумесна з Міністэрствам аховы здароўя.

– Выклікае заклапочанасць рост выдаткаў на выплату дапамог па часовай непрацаздольнасці. Значны прырост назіраецца ў Мінскай, Брэсцкай і Гомельскай абласцях. Мяркую, што сумесна з органамі аховы здароўя неабходна правесці сур'ёзны аналіз прычын росту паказчыкаў часовай непрацаздольнасці з распрацоўку адпаведных мер, – адзначала міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч.

Зараз дапамога па часовай непрацаздольнасці, па агульным правіле, прызначаецца ў памеры 80% сярэднядзённага заробку за першыя 12 каляндарных дзён непрацаздольнасці і ў памеры 100% сярэднядзённага заробку за наступныя каляндарныя дні бесперапыннай часовай непрацаздольнасці.

Гэта дапаможнік часткова замяшчае заробак застрахаванаму работніку з прычыны яго часовай страты па медыцынскіх і (або) сацыяльных прычынах (агульнае захворванне, траўма ў побыце і інш.). Гэта значыць улічваюцца як траўмы ў побыце, так і агульныя захворванні.

Дапамога па часовай непрацаздольнасці прызначаецца пры ўмове выплаты за застрахаваную асобу, а таксама ім самім у прадугледжаных заканадаўствам выпадках абавязковых страхавых узносаў на сацыяльнае страхаванне. Тарыф абавязковых страхавых узносаў на сацыяльнае страхаванне, у тым ліку на выпадак часовай непрацаздольнасці, складае 6%. У сувязі з гэтым пры захаванні названай умовы застрахаванай асобе неабходна гарантаваць дапаможнік ва ўстаноўленым памеры, незалежна ад таго, у стацыянарных або ў амбулаторных умовах праходзіла лячэнне.

– Памер дапамогі па часовай непрацаздольнасці як выплаты сацыяльнага характару не можа цалкам кампенсаваць заробак работніка, згублены ў сувязі з вызваленнем ад працы. У адваротным выпадку з'яўляецца зацікаўленасць хварэць, – тлумачылі раней у Мінпрацы. – З улікам выкладзенага, памер дапамогі ўстанаўліваўся з улікам таго, каб не было зацікаўленасці хварэць і ў той жа час забяспечыць застрахаванай асобе сацыяльную абарону ў выпадку наступлення ў яго часовай непрацаздольнасці.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Глава канцэрна "Белнафтахім" І. Ляшэнка пацвердзіў, што парытэтная цана на паліва цяпер павінна быць 80-85 цэнтраў за 1 літр, цэны на АЗС зраўняюць з расійскімі.

**Жыткавічы.** З дапамогай больш тоны выбухоўкі сапёры ўзарвалі аварыйны ўчастак маста праз раку Прыпяць, на рамонт адвялі год, цяпер дзейнічаюць паром і пантонная пераправа

**Мінск.** Калі канфрантацыя паміж Расіяй і Захадам будзе нарастаць, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, то Масква без варыянтаў зацягне беларусаў у свой акоп.

**Брэст.** Каля паўтысячы працаўнікаў будаўніцтва шкоднага акумулятарнага завода зноў выйшлі на цэнтральную плошчу Леніна на чарговую акцыю, каб жыць у чыстым горадзе.

**Курапаты.** Пакуль невядома, калі адкрыецца тут мемарыял ахвярам сталінскіх рэпрэсій, а ў 50 метраў ад урочышча запрацаваў рэстаран забаўляльнага комплексу "Бульбаш-холл".

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка пацвердзіў, што павышэнне цэн на паліва будзе непазбежнае, але канчатковага рашэння аб яго памерах пакуль не прынялі.

**Мазыр.** Былога дырэктара "Даманавічы-агра" суд пакараў 8 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за буйныя махінацыі з двума падзельнікамі пры рэалізацыі мяса гаспадаркі.

**Мінск.** Мы "прамухалі", як заявіў першы прэм'ер-міністр М. Чыгір, вялікі прамежак часу, калісьці палякі зайздросцілі нам, а яны цяпер далёка абагналі беларусаў, а цэны ніжэй.

**Лунінец.** Пасля масавай бойкі з бітамі на беразе ракі Цна знайшлі труп 32-гадовага расіяніна, міліцыя затрымала 12 хлопцаў 1997-1999 гадоў нараджэння, адзін трапіў у ЦРБ.

**Гродна.** На пункце пропуску "Беняконі" мытнікі выявілі ў двух мікрааўтобусах і затрымалі буйную партыю кантрабандных смартфонаў і ноўтбукаў на 1 мільён еўра.

**Бабруйск.** Па факце гібелі на пажары двух шасцігадовых дзяцей следчыя затрымалі іх маці, якая пакінула малых адных у кватэры, ёй пагражае да 5 гадоў турмы.

**Магілёў.** Выдатніку вучобы ў сацыяльна-гуманітарным каледжы, 18-гадоваму А. Маскалёву пагразілі адлічэннем з установы, калі ён застанецца ў арганізацыі БНФ.

**Ганцавічы.** На падпітку 17-гадовы хлопец спаліў аўтобусны прыпынак у вёсцы Локтышы, ён быў на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх і можа атрымаць 2 гады турмы.

**Гродна.** Побач са Старым і Новым замкамі горада ўстанавілі скульптуру князя Давыда Гарадзенскага, з'явіўся ў горадзе і помнік героям кінакамедыі "Белыя росы".

**Брэст.** Падчас Універсіяды 22-гадовы студэнт з Магілёва Д. Набокаў устанавіў новы рэкорд Беларусі ў скачках у вышыню – 2,36 метра, які трымаўся 25 гадоў.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Главам Віцебскай і Магілёўскай абласцей аб'явілі заўвагу за даўгі па зарплаце, у Прыдзвінні 80 даўжнікоў, пераважна ў сельскай гаспадарцы, 2 заводы і структура ЖКГ.

**Орша.** На абласным семінары адзначалася, што трэць дойнага статку вобласці пасвяць на дрэнна падрыхтаваных участках, на якіх не праводзіўся неабходны падсеў траў.

**Браслаў.** Ноччу на тэрыторыі раёна ў 1 км ад латвійскай граніцы пагранічнікі затрымалі групу нелегальных мігрантаў з чатырох грамадзян Ірака, куды іх падвезлі на аўтамабілі.

**Полацк.** У адным з карпусоў дзяржуніверсітэта аднавілі рэктарскія дзверы, якія дзейнічалі тут паўтара стагоддзя, яны будуць адкрывацца толькі падчас прыезду высокіх гасцей.

**Орша.** Падчас паўторнага пікета каля дарогі міліцыя затрымала зноў Р. Кузьмянкова і адправіла яго на псіхіятрычную экспертызу, за пікет "по 500 тут нет" далі штраф 490 руб.

**Віцебск.** На лясной дарозе ля вёскі жалезнякі жыхар горада ўбачыў і сфатаграфаваў вялікага мядзведзя, затым мядзведзя людзі бачылі на 128-км дарогі Мінск-Магілёў.

**Сянно.** Для ўрачоў сельскіх бальніц і фельдшараў ФАПаў для паездак да пацыентаў па выкліках закупілі электравеласіпеды, на новы транспарт іх перасадзілі пасля трэніровак.

**Верхнядзвінск.** Да абласных "Дажынак" у будынку былой гасцініцы адкрыюць офіс урача агульнай практыкі, у райцэнтры істотна абновіцца і стаматалагічная паліклініка.

**Віцебск.** На сваім філіяле ў Белаазёрску абутковая кампанія Марко выпусціла 18 пробных узораў спартыўных лыжных ботаў для экспертнай ацэнкі Міністэрства спорту і турызму.

**Глыбокае.** У Беларусі выканалі яшчэ 2 смяротныя прысуды, адным са смертнікаў стаў 31-гадовы В. Летаў, які стаў забойцам у 3 раз, адбываючы пакаранне ў мясцовай калоніі.

**Верхнядзвінск.** Анамальнай з'явай назвалі ў Белгідрамецэ колькасць граду, якая выпала ў раёне, бо і зімой рэдка выпадае такая колькасць ападкаў у адным месце.

**Докшыцы.** Днём ля вёскі Беразіно з'ехаў у кювет і перакуліўся грузавік МАЗ, які перавозіў цыстэрну з бітумам, вадзіцель з пасажырам атрымалі траўмы, іх шпіталізавалі.

**Паставы.** На працягу трох дзён у райцэнтры праходзіў міжнародны злёт ваеннаслужачых запасу і ветэранаў лакальных канфліктаў з Віцебшчыны, Міншчыны, Літвы і Эстоніі.

**Віцебск.** Ідэолагі аблвыканкама адмоўна аднесліся да прапановы больш паўтысячы грамадзян перайменаваць абласную бібліятэку імя Леніна ў гонар Францішка Скарыны.

**Шаркаўшчына.** Раён перастаў быць самым бедным у Беларусі, абышоў па заробках на 60 капеек Мсціслаўскі, але ў 10-ты самых бедных рэгіёнаў краіны – 7 раёнаў Віцебшчыны.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Прафесар Фама Варанецкі знайшоўся на "Запаведным Востраве"

■ Уладзімір Скрабатун

**Ігар Куніцкі, зацяты аматар вандровак, ужо з зімы, пасля нашай сумеснай паездкі ў Дзісну, дзе ён нарадзіўся і правёў дзіцячыя і школьныя гады, пачаў "тэрарызаваць" аўтара гэтых радкоў з чарговым падарожжам.**

– Ну, калі і куды паедзем наступным разам?– ужо які раз пытае Ігар

– Пачакай, няхай зіма пройдзе, пацяплее, вясна настане. Паедзем, не сумнявайся!– кажу.

І такі дзень настаў – на мінулым тыдні.

– Давай, з'ездзім да Аляксандра Цвіркі, уладальніка аграсядзібы "Запаведны Востраў", што на беразе возера Івесь. Можна сказаць, што ў самым Цэнтры Еўропы, які ў нас скраў Полацк.

– Едзем!– кажа Ігар.

Да Аляксандра Цвіркі не так проста патрапіць, трэба загадзя дамаўляцца. І падчас нашага наведвання аграсядзібы ад званкоў адбою не было. Тэлефануюць нават з Ізраіля.

На аграсядзібе – самадастатковая падсобная гаспадарка. Ёсць вальеры са свойскай жывёлай, пару дзясяткаў клетак з рознымі пародамі трусоў. Купіў Аляксандр навюткі мінітрактар для сваёй гаспадаркі, ля яго завіхаліся мясцовыя механікі, даводзілі да ладу. На дзялках работніцы займаліся праполкай.

– На гора, у гэтым годзе моцна засушыла! Трэба штораз рабіць паліўку. Нічога не расце. Зямля, як скала! Пясок і суглінкі.

– У Вас жа тут азёры, на дне – сапрапелі. Можа, варта было б напампаваць іх на неўрадлівыя палеткі?

Гэтае меркаванне, на дзіва, падтрымаў і Ігар Куніцкі, колішні дарожны майстар. Нават прапанаваў тэхніку, якая можа зрабіць падобную тэхнічную аперацыю.

Правялі з Аляксандрам і невялікую вандроўку па ваколіцах. Наведалі недалёкія пасадкі яліны еўрапейскай Псуеўскага лясніцтва, якое ўваходзіць у Дзвінскую эксперыментальную лясную базу Інстытута леса Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Вельмі прыгожае дрэва, якое нагадвае гатычны сілуэт. Наша беларуская яліна з-за зменаў клімату вымірае. Яе ўжо няма на поўдні Беларусі! Лясы становяцца шырокалісцевымі. Яліна еўрапейская мусіць замяніць у нашых лясах вымiраючую беларускую яліну звычайную.

Напэўна, наша падарожжа ў "Запаведны Востраў" і скончылася б на гэтым, аднак Аляксандр запрасіў нас на абед. Абед жа тут гатуецца не толькі для наведвальнікаў, але і для ўсіх работнікаў, якія занятыя па гаспадарцы.

– Павінен падысці на абед і прафесар Варанецкі,– кажа Аляксандр.

Ён неўзабаве падышоў...

**Фама Сільвестравіч Варанецкі (нар. 23 сакавіка 1938 г., в. Траскоўшчына, Мінскі раён) — беларускі акцёр, педагог. Заслужаны артыст Беларусі (1990). Таленавіты акцёр, рэжысёр і мастак, мае велізарны педагагічны досвед. У 1961 г скончыў БДТМІ. Працаваў у розных тэатрах СССР. З 1971 — у Тэатры ім. Янкі Купалы. 1990 г – Заслужаны артыст Беларусі. Прафесар БДАМ. З 1990, больш за 20 гадоў Фама Варанецкі выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў акцёрскае майстэрства.**

**У адным з тэлевізійных праектаў Фама Варанецкі ўвасобіў усіх беларускіх князёў ад Усяслава Чарадзея да сямейства Радзівілаў.**

**І, усё ж, ён хацеў прысвяціць сваё жыццё не тэатру, а жывапісу...**

Вось яно як! Гэты ж дзядзька, у мінулым годзе, падчас Вішнёвага фестывалю прысутнічаў тут, на аграсядзібе, калі "Міс Еўропы" з розных краінаў у аквалангах пагружаліся ў воды возера Івесь. Дзядзька стаўся дужа гаваркім, асабліва ў нашай глыбоцкай кампаніі. Аўтар жа быў разам з глыбоцкімі журналістамі – Змітром Лупачам і Леанідам Юрыкам, якія здымалі відэаролік аб гэтай падзеі.

– А колькі вам гадоў?– пытае дзядзька.

– 62,– кажу.

– Ну, гэта дзіцячы ўзрост, мне дык ужо – 80!

І тут жа прадэманстраваў практыкаванне... Вось, хто ў 80 гадоў, не згінаючы каленяў, дастане далонямі зямлі? Можа адзін – на мільён! А ён некалькі разоў зрабіў гэта без асаблівых цяжкасцей.

Тады падумалася: гэтаму дзядзьку, ну, ніяк не дасі 80, сама болей – 60-65 гадоў.

– Я ведаю практыкаванні і ад радыкуліту, і ад прастатыту!

З'ехаўшы тады з "Запаведнага Вострава", доўга шкадаваў, што не пазнаёміўся бліжэй з гэтым чалавекам. Ды й, зрэшты, тады было тлумна, шмат народу прысутнічала на мерапрыемстве, не да гэтага было... Ды й дзеўкі пекныя з аквалангамі! Але не пакідала адчуванне – штосьці яго твар мне вельмі знаёмы, дзесьці, некалі бачыў гэтага чалавека. А дзе і калі?

Дык, гэта і ёсць папулярны акцёр савецкага кіно і тэатра! Фама Варанецкі! Што зробіш, не тэатрал – аўтар гэтых радкоў, не знаўца тэатра і кіно. Ды й, не магчыма ўсё на свеце ведаць і памятаць.

А яшчэ аўтар гэтых радкоў і не паэт, як Ігар Куніцкі... Паэт і акцёр – хутка знайшлі агульную мову! Здавалася, мы ніколі так і не рушым дадому.

Фама Варанецкі адразу паказаў нам калекцыю сваіх жывапісных работ. Беларуская прырода, зорнае неба, храмы... Карцінамі Фамы Варанецкага аздоблены, бадай, усе вольныя месцы на сценах аграсядзібы.

Прафесар жыве ў вагончыку на беразе невялічкага возера, якое тут так і клічуць – Азярцо. Да возера Івесь – усяго крокаў 50. Абодвы азёры злучаны хуткаплынным ручаём, які сюды прыбягае аж з возера Белае. Паміж азёрамі – аграсядзіба "Запаведны Востраў".

Вагончык мабільны, нямецкай вытворчасці. Абсталяваны ўсім



"Страсці па Аўдзею" (1990)




Дзяржаўная граніца.Фільм 2: "Мірнае лета 21-га года..."




**Прафесар Фама Варанецкі (справа) і Ігар Куніцкі на аграсядзібе Аляксандра Цвіркі "Запаведны Востраў", што на беразе возера Івесь.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

неабходным: кухня з плітой і газавым балонам, душавая, туалет, ложак (нават два, іншы – для прыезджых), электрычнасць падлучаная да аграсядзібы.

Фама Варанецкі "прапісаўся" тут даўно, гадоў мо дзесяць таму, яшчэ да ўзнікнення аграсядзібы, узімку жыве ў Мінску. Ну, а ў цёплыя месяцы жыве на ўлонні прыроды – тут, на ўскрайку Галубіцкай пушчы.

Пры ўваходзе ў вагончык пастаўлены навес з брэзенту. Тут знаходзіцца ўся рыбацкая амуніцыя. У садку на паветры вяляюцца ладныя падлешчыкі.

– Вы іх злавілі ў возеры Івесь?– пытаю.

– Не! У Азярцы.

– У гэтай лужыне, якая дыяметрам 50 метраў, водзіцца лешч?

– Лужына не лужына, а – 9 метраў глыбіні! Лаўлю і ладных ліняў, і плотак.

У прафесара ля вагончыка – свае дагледжаныя зараснікі малінніку, тут жа і плантацыя шніткі (сніткі), якую ўсе лічыць за пустазелле, аднак у прафесара яна ідзе на салаты. Вельмі карысная для здароўя трава!

Зрэшты, з харчаваннем у прафесара няма праблемаў.

– Саша (Аляксандр Цвірка) паставіў мяне "на давольствіе",– кажа спадар Фама. – Харчуюся ў яго.

Фама Варанецкі як акцёр напачатку выконваў ролі герояў, потым пераважна характарныя. Сярод лепшых роляў у тэатры імя Я.Коласа: Раскольнікаў («Злачынства і кара» паводле Ф. Дастаеўскага), Леанідзік («Мой бедны Марат» А. Арбузава), Віктар («Варшаўская мелодыя» Л. Зорына); у тэатры імя Я. Купалы: Салянік («Радавыя» А. Дударава), Паніч («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), Жабрак («Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева), Настаўнік («Безыменная зорка» М. Себасцьяна), Клеон («…Забыць Герастрата!» Р. Горына).

Па дарозе на Глыбокае заехалі ў вёску Хралы да Аксаны Лашкевіч. Аксана гадуе статак козаў у 27 галоў. Займаецца вырабам сыроў з казінага малака. Сыры вельмі смачныя! Аксана паведаміла, што едзе ад Глыбоччыны ў Мінск на міжнародную выставу "Белагра - 2018" і будзе прэзентаваць там свае сыры.

– Вандроўка была вельмі цікавая, мне спадабалася!– кажа Ігар Куніцкі, узяўшы накірунак на Глыбокае.

# Выпускнікі ўсіх школ раёна сабраліся на агульны развітальны баль на Цэнтральнай плошчы ў Глыбокім




**Кіраўнік раёна Алег Віктаравіч Морхат уручае выпускнікам-выдатнікам Глыбоцкага раёна ў прысутнасці іх бацькоў залатыя і срэбныя медалі, грашовыя ўзнагароды, граматы і лісты ўдзячнасці.** *Фота Ул. Скрабатуна.*




**Развітальны баль выпускнікоў Глыбоцкага раёна на Цэнтральнай плошчы г. Глыбокае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ **Уладзімір Скрабатун**

Калі згадваць свае школьныя гады, у прыватнасці апошні званок, развітальны баль, сустрэчу досвітку, то ўсё тады, у 1970-я гг, было досыць сціпленька. Прайшло больш за 40 гадоў. Час змяніўся, краіна змянілася, горад змяніўся, усё змянілася і школа таксама.

У мінулую суботу адбыўся агульна раённы развітальны баль. Можна па-добраму пазайздросціць цяперашнім выпускнікам, як для майго пакалення, дык – нашым унукам. Усіх выпускнікоў збіраюць на Цэнтральнай плошчы горада і раёна. Усё праходзіць урачыста, па выдатнаму сцэнару і добрай рэжысуры, у прысутнасці бацькоў. І гэта – выдатна, запомніцца на ўсё жыццё!

Ну, скажам прама, ці па сілах невялічкай вясковай сярэдняй школцы з дзясяткам выпускнікоў, а то і меншым, арганізаваць такое запамінальнае і кранальнае да слёз свята. Натуральна, не! А тут, на Цэнтральнай плошчы раённага цэнтра столькі шмат народу, што ніколі не бывае нават на Вішнёвым фестывалі! І з надвор'ем пашанцавала!

– Такое ўжо больш не паўторыцца!– чулася і з галоўнай сцэны, і ва ўсіх кутках плошчы. Выпускнікі фатаграфаваліся на памяць. Гэты дзень застанецца ў памяці на ўсё жыццё.

Заўтра выпускнікоў чакаюць знаёмствы з новымі людзьмі, новымі калектывамі, заўтра пачынаецца іншае – дарослае жыццё. Няхай яно будзе шчаслівым!

## Скраў колы ад камбайна і акумулятары — у Глыбоцкім раёне асудзілі інжынера аднаго з калгасаў

**Інжынер аднаго з калгасаў Глыбоцкага раёна атрымаў тры гады пазбаўлення волі за разукамплектаванне тэхнікі свайго сельгаспрадпрыемства.**

Як высветліла група па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Глыбоцкага РАУС, мужчына спачатку сцягнуў два колы ад збожжаўборачнага камбайна коштам 7000 рублёў, а затым выкраў адразу 14 акумулятараў на суму ў 5000 рублёў. На акумулятарныя батарэі інжынер склаў заведама ілжывыя дакументы аб іх продажы. Пасля гэтага ён спрабаваў скрасці колы і рухавік ад збожжаўборачнага камбайна КЗС-10К-21 «Палессе GS10», але не змог рэалізаваць свой злачынны намер да канца па незалежных ад яго акалічнасцях.

Суд Глыбоцкага раёна прызнаў інжынера калгаса вінаватым у крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, прысваенні або растраце і службовым падлогу. Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

Таксама мужчына пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на тэрмін пяць гадоў, паведамляе прэсслужба УУС Віцебскага аблвыканкама. Прысуд раённага суда пакуль не ўступіў у законную сілу.

*ННВ*

## Судны дзень для незалежных журналістаў з Глыбокага

**Два суды над Змітром Лупачам і адзін – над Таццянай Смоткінай павінны былі адбыцца 11 чэрвеня.**

Суд Пастаўскага раёна разглядае справу журналіста-фрылансера Змітра Лупача. Слуханнне павінна было адбыцца 7 чэрвеня, але па прычыне занятасці суддзі яго адклалі. Паведамілі пра гэта журналісту толькі тады, калі ён ужо прыехаў у Паставы.

У пятніцу, 8 чэрвеня, Змітру Лупачу патэлефанавалі з суда Глыбоцкага раёна і паведамілі пра тое, што ў Глыбокім адбудзецца над ім суд таксама 11 чэрвеня ў 10 гадзін. Калі журналіст сказаў, што ў яго на гэты час прызначаны суд у Паставах, у глыбоцкім судзе вырашылі перанесці судовы працэс на 14.20.

На гэты час прызначаны суд і над глыбоцкай незалежнай журналісткай Таццянай Смоткінай. Суд Глыбоцкага раёна вырашыў спалучыць справы журналістаў і правесці слуханне адначасова. Таццяне Смоткінай позва ў суд прыйшла sms-паведамленнем, а пасля ёй уручыў папяровы варыянт позвы старшы інспектар па дазваляльнай працы Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі Сяргей Цырбан.



8 чэрвеня міліцыянт ізноў выклікаў Таццяну позвай праз Viber у Глыбоцкі РАУС. Там ён склаў яшчэ адзін пратакол, які датычыўся матэрыяла журналісткі пра праблемы з каналізацыяй на вуліцы Дзяржынскага ў Глыбокім. Крыху раней Цырбан склаў на Таццяну Смоткіну тры пратаколы. Цяпер, паводле яго слоў, вырашыў скласці яшчэ адзін. У ранейшых пратаколах адзначалася, што Таццяна інтэрв'ювала людзей асобна. А зараз міліцыянт вырашыў скласці яшчэ дадатковы пратакол, у якім пазначыў, што інтэрв'ю ў адной жанчыны яна брала сумесна з Лупачам.

Нагадаем, глыбоцкіх журналістаў вінавацяць у тым, што яны ўзялі інтэрв'ю і такім чынам здзейснілі незаконны выраб прадукцыі СМІ. Матэрыялы з'явіліся на сайце "Беларускага Радыё Рацыя" пад назвамі "Бязмежжа міліцыянтаў, або за што ламаюць ногі пенсіянерам", "Як гарадская каналізацыя ў Глыбокім стварыла праблемы", "Юбілейныя сімвалы ў Глыбокім". А таксама на тэлеканале "Белсат" — "Чаму міліцыянты збіваюць пенсіянераў?".

Глыбоцкіх журналістаў прыцягнулі да адказнасці паводле ч. 2 арт. 22.9 КаАП.

Незалежных журналістаў аштрафавалі агулам на 80 базавых велічынь. Суддзя Людміла Вашчанка пастанавіла пакараць Лупача штрафам у 35 базавых велічынь (857,50 рублёў), а Смоткіну — у 45 базавых (1102,5 рублёў).

**Крыніца:** *Служба маніторынгу ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"*

# «Остров чистоты»: делайте покупки, не выходя из дома




Выгодный интернет-шопинг поможет забыть про утомительные очереди и тяжелые сумки

На днях я встретила возле подъезда свою соседку, которая шла домой с большими тяжелыми пакетами:

*– На выходных буду делать генеральную уборку, вот и купила в «Острове чистоты» все необходимое. Там сейчас хорошие акции действуют! Одна проблема – до чего ж тяжело в жару нести все эти сумки…*

– А зачем ты мучаешься? Я тоже все покупаю в «Острове чистоты», только никогда ничего не ношу – мне все домой привозят, надо просто делать заказы через интернет. Доставка бесплатная.

*– Но ведь там, наверное, все дороже, чем в нашем магазине?*

– Нет, там тоже много отличных акций. При этом не надо стоять в очередях. Сидишь дома на диванчике, выбираешь что нужно, а потом курьер тебе все привозит!

Многие из нас, как и моя соседка, до сих пор по привычке несут домой тяжелые сумки, забывая о том, что сейчас многие вещи очень удобно и выгодно заказывать через интернет. Сеть магазинов «Остров чистоты» напоминает: в XXI веке вовсе не обязательно заходить в магазин, чтобы сделать покупки. Несколько щелчков компьютерной мышкой – и вещи привезут вам прямо домой!

### Как сделать заказ?

Чтобы сделать заказ, достаточно позвонить и оформить заказ по телефонам:

- Velcom +375 29 686-37-37
- МТС +375 33 686-37-37
- Life +375 25 686-37-37

Также просто оформить заказ через сайт интернет-магазина ostrov-shop.by: достаточно выбрать интересующие товары, и положить в корзину с указанием адреса доставки товаров необходимые товары, и оформить заказ.

Обратите внимание на то, что бесплатная доставка действует при условии, если сумма заказа будет 25 белорусских рублей и выше. При меньшей сумме доставка не осуществляется.

### Когда привезут покупки?

Время доставки зависит от загруженности курьерской службы, но не может превышать трех рабочих дней. После того, как заказ будет собран, курьер свяжется с вами по телефону и договорится о времени доставки по адресу, который вы укажете. Постарайтесь не пропускать звонки: если курьер не сможет связаться с вами, то заказ будет аннулирован.




### Действуют ли скидки?

Делать покупки в интернет-магазине «Остров чистоты» очень выгодно: здесь постоянно предлагается множество различных товаров по специальным акционным ценам, подарки и всегда действует скидка 15%, от цен в магазинах «Остров чистоты» (скидка 15% не распространяется только на акционные товары, и детское питание, и товары, указанные в положении на предоставление скидки **http://zht.by/dostavka-i-oplata/**), а также на покупки, оплачиваемые картами рассрочек «Халва», «Карта покупок», «Smart-карта» банка «Москва-Минск».

### Как оплачивать?

Когда курьер привезет ваш заказ, вы можете оплатить покупки наличными белорусскими рублями либо рассчитаться пластиковой банковской картой Visa, VisaElectron, MasterCard, MasterCard Electronic, MasterCard Maestro и Белкарт. Курьер обязан будет выдать вам чек с подписью и печатью продавца.




Делайте покупки в интернет-магазине «Остров чистоты» – и забудьте про утомительные очереди и тяжелые сумки. Современные технологии помогут вам сэкономить время и деньги.

БУДЬ В КУРСЕ

В интернет-магазине «Остров чистоты» можно купить такие же товары, как и в сети дискаунтеров – бытовую химию, косметику и многие другие полезные вещи. Узнать подробную информацию о покупках в интернет-магазине можно на сайте ostrov-shop.by или по телефонам:

- Velcom +375 29 686-37-37
- МТС +375 33 686-37-37
- Life +375 25 686-37-37

КСТАТИ

Сеть магазинов «Остров чистоты» неоднократно была отмечена такими престижными наградами, как «Выбор года» и «Народная марка».

*УНП 590191328*




## ЗВОДКА ДТЗ

**30.05.2018 ў 09:20** кіроўца матацыкла "Кавасакі", без рэгістрацыйнага знака, не маючы права кіравання гэтым відам транспартнага сродку, без моташлема, рухаючыся па аўтадарозе Р-3 «Лагойск – Зембін - мяжа Латвіі», на 142 кіламетры, у напрамку г. п. Шаркоўшчына з боку г. Глыбокае, пры здзяйсненні манеўру абгон, не справіўся з кіраваннем і перакуліўся на сустрэчнай паласе руху, у выніку падзення ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння.

***Ю. В. Заяц,** начальнік АДАІ*

## "Дармаедаў" у Беларусі выключылі з ліку атрымальнікаў субсідый на ЖКП

З 1 студзеня 2019 года ў Беларусі безнаўныя жыллёвыя субсідыі будуць прадастаўляцца працаздольным грамадзянам, якія не занятыя ў эканоміцы і якія аплачваюць жыллёва-камунальныя паслугі па тарыфах, што забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне.

Такое рашэнне замацавана ва ўказе № 225, які 7 чэрвеня падпісаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Пры гэтым, як адзначылі ў прэсслужбе кіраўніка дзяржавы, члены сям'і, якія пражываюць сумесна з імі, захаваюць права на атрыманне субсідый. Дакументам таксама пашыраны пералік грамадзян, якім безнаўныя жыллёвыя субсідыі будуць прадастаўляцца. У яго ўключаны грамадзяне, якія даглядаюць за дзецьмі ва ўзросце да трох гадоў і дзецьмі-інвалідамі да 18 гадоў і якія атрымліваюць адпаведную дапамогу ад дзяржавы.

*telegraf.by*




## П'янаму не месца за рулём!

■ **Ю. В. Заяц,** *начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС.*

**З 11 па 20 чэрвеня на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на прафілактыку дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам вадзіцеляў, якія знаходзяцца ў стане ап'янення, а таксама папярэджанне парушэнняў Правілаў дарожнага руху з удзелам нецвярозых вадзіцеляў – «П'янаму не месца за рулём!».**

Паважаныя грамадзяне не заставайцеся абыякавымі да момантаў, калі Вам стала вядома, што транспартным сродкам кіруе асоба ў стане алкагольнага ап'янення, альбо якая не мае права кіравання транспартным сродкам, калі Вы выявілі «нецвярозага» веласіпедыста або пешахода, які рухаецца па дарозе, які не пазначыў сябе ў адпаведнасці з ПДР, патэлефануйце ў «102», паведаміце месца яго знаходжання, магчыма, Вы ўратуеце чыёсьці жыццё і дапаможаце пазбегнуць бяды сям'і і блізкім гэтага чалавека, а таксама папярэдзіце магчымасць іншым удзельнікам дарожнага руху апынуцца прычыніцелем шкоды такому «гора-веласіпедысту» або «гора-пешаходу». Калі Вам па розных прычынах не хочацца «здаваць» такога чалавека, то самастойна адхіліце яго ад кіравання транспартным сродкам, альбо дастаўце веласіпедыста, пешахода па месцы жыхарства ці ў іншае бяспечнае месца, але адрэагаваўшы, Вы будзеце адчуваць сябе спакойна, так як зрабілі ўсё, што маглі, каб не дапусціць бяды.

Апошні час усё часцей і часцей кіроўцаў, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення, атрымоўваецца затрымліваць менавіта па інфармацыі неабыякавых грамадзян, якія паведамляюць аб такіх небяспечных удзельніках дарожнага руху па тэлефоне «102».

У 2018 годзе, за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення ўжо затрымана 42 кіроўцы. Такіх кіроўцаў не спыняюць ні «велізарныя» штрафы, ні пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі на тры гады, ні самыя жудасныя наступствы, якія могуць паўстаць у выніку, не зусім іх адэкватных паводзін на дарогах, ні боязь стаць злачынцам і пазбавіцца транспартнага сродку.

Толькі сумеснымі намаганнямі мы зможам зрабіць нашы дарогі бяспечнымі!

## У Шаркоўшчынскім раёне бухгалтар і нарыхтоўшчыкі нарыхтоўчай канторы прысвоілі больш за 70 000 рублёў

**Па дадзеных следства работнікі Шаркоўшчынскага раённага спажывецкага таварыства некалькі гадоў прысвойвалі казённыя грошы пры дапамозе махінацый з нарыхтоўкамі.**

Падставай для ўзбуджэння крымінальных спраў аб прысваенні маёмасці ў асабліва буйным памеры (частка 4 артыкула 211 КК) паслужылі матэрыялы аб выяўленых фактах крадзяжоў, выяўленыя міліцыяй пры праводзенні праверкі падчас рэарганізацыі таварыства.

Як усталявалі следчыя, са студзеня 2012 года па верасень 2014 года вядучы бухгалтар сектара нарыхтовак Раённага спажывецкага таварыства па папярэдняй змове з трыма нарыхтоўшчыкамі прысвоілі грошы і матэрыяльных каштоўнасцей на агульную суму больш за 72 200 рублёў.

Нарыхтоўшчыкі, якія закуплялі ў жыхароў Шаркоўшчынскага раёна ягады, гародніну, садавіну, макулатуру і металалом, неабгрунтавана прысвойвалі таварна-матэрыяльныя каштоўнасці і грошы, якія знаходзіліся ў іх у справаздачнасці, а бухгалтар уносіла несапраўдныя звесткі ў справаздачы аб колькасці выкарыстаных наяўных грошай.

Падазраваных дапыталі і ўзялі з іх падпіску аб яўцы. Цяпер следчыя вывучаюць дакументы фінансава-гаспадарчай дзейнасці Шаркаўшчынскага РаСТ аб руху грошай і таварна-матэрыяльных каштоўнасцей, дапытваюць сведак і праводзяцца следчыя дзеянні з удзелам падазраваных асоб, паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Святлана Сахарава.

*ННВ.*

